## АНЁЛ

Анёл зьяўляецца з-за паркана. Можа хто з маіх суседзяў і бачыў, як Анёл выходзіць з пад'езду ці як вылятае са слухавога акенца майстэрні, што некалі належала савецкаму разьбяру, а зараз — уласнасьць нацыянальнага музэя. Можа й так. Толькі сапраўды Анёл уздымаецца з-за жалезабетоннага паркана, па якім напісана чырвонае слова НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, з-за таго самага плота, што адгароджвае стары двор ад новабудоўлі.

Спачатку паказваецца анёльская галава: кудзеры доўгіх сьветлых валасоў вакол вузкага белага твару з тонкім доўгім носам дый круглымі сінімі вачыма. Потым зьяўляецца шыя з акуратным кадыком, за ёй выплываюць плечы, за якімі можна ўбачыць магутныя крылы.

Можа хто з маіх знаёмых і сустракаў Анёла ў залатым плашчы ці ў бліскавічным панцыры мадрыцкага тарэадора. Можа... Але Анёл, які ўздымаецца з будоўлі, носіць яскрава-чырвоны хітон. На Анёле доўгі — колеру артэрыяльнае крыві — хітон і больш нічога. Нават зімою, у лютыя маразы, Анёл босы. Зрэшты, Анёл ня ходзіць па грэшнай зямлі. Ён лунае, планіруе, лётае. Анёл уздымаецца, узносіцца, творыць урачыстасьць. Анёл — лётчык ад Бога.

"Мой мілы таварыш, мой лётчык, — думаецца мне, калі бачу, як над Менскам плыве Анёл, — вазьмі ты з сабою мяне". Толькі ён не здагадваецца пра мае вершаваныя рэфлексіі. Анёл ня ўмее чытаць чужыя думкі. А я не магу пагаварыць з Анёлам, бо ня вывучыў анёльскую мову. Застаецца адно глядзець, як доўгія лёгкія пальцы сыплюць з-пад хмар ружовую яблынавую квецень. У Раі заўсёды ёсьць яблыня ў квецені. І я не бядую, што Анёл не разумее мяне.

Можа хто з маіх сяброў мае іншыя думкі пра божага лётчыка. Хай... Даўжыня прамоўленай малітвы не вызначае шчырасьці веры ў Анёла.

**Адам Глёбус**

### Андрэй РАМАШЭЎСКІ: Які ж гэта беларус калі ён ня любіць піва ?

# ВЫПІ ПІВА - БУДЗЕ ЛЕПЕЙ!

*Працягваючы знаёмства чытача з правымі партыямі. «ZA VOLU» дае слова старшыні Цэнтральнага Каардынацыйнага камітэта Партыі Аматараў Піва Андрэю Рамашэўскаму.*



*Кароткая даведка: Андрэй Рамашэўскі, прафэсыйны партыйны функцыянер і незалежны газэтчык. Палітычнай дзейнасьцю займаецца з 1987 года. Прымаў удзел у дзейнасьці клюбу "СУЧАСЬНІК" (Леў Крывіцкі & Ко), БНФ, Дэмакратычнага Саюзу, Partito Radicale (Італія), актыўна займаўся самвыдатаўскай дзейнасьцю, працаваў у рэдакцыях газэт "Навіны БНФ", "ПЕРЕВОРОТ" (выходзіла 19-21 жніўня 1991 г.), "АНЕКДОТЪ". Сёньня займае пасады ў кіраўніцтве Партыі Аматараў Піва, прымае ўдзел у працы нашае газэты, стварае партыйную газэту - "НАША ПІВА", зьбіраецца балятавацца ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь па 225-й Купалаўскай акрузе.*

Ня ўсім гэта вядома, але ж Партыя Аматараў Піва таксама зьяўляецца клясічнай партыяй правага кірунку, а тое, што нацыянальныя пытаньні не стаяць для яе на першым мейсцы яшчэ нічога не вызначае - пры клясіфікацыі партый на правыя й левыя за аснову бяруцца суадносіны прыярытэтаў правоў чалавека й дзяржавы. У гэтым пляне ПАП - адна з самых правых партыяў нашае краіны, таму што не пакідае за дзяржавай аніякіх правоў лезці ў прыватнае жыцьце чалавека, змагаецца за сьвяшчэнную недатыкальнасьць прыватнае уласнасьці й, зразумела, за чысьціню і якасьць айчыннага піва. Тое, што ПАП адстойвае дзяржаўны суверэнітэт і незалежнасьць Беларускае дзяржавы, зьбліжае яе з партыямі нацыянальнага кірунку і, адпаведна, дыстанцыюе ад левых сілаў, катэгарычна непрымаючых нацыянальнай ідэі.

У выбарах 1995 года ПАП зьбіраецца прыняць найактыўнейшы ўдзел, выступаючы незалежнай сілай, неўваходзячай ні ў якія блёкі.

Прыватна для сябе я абраў акругу нумар 225, якая знаходзіцца у самым цэнтры Менску. Шмат сябраў нашае партыі жыве ў гэтай акрузе ў студэнцкіх інтэрнатах. Акруговая выбарчая камісія знаходзіцца ў Доме настаўніка, а свой аператыўны штаб я пляную разьмесьціць роўна праз дарогу насупраць яе - у піўбары "СЬВІСЛАЧ". Галоўныя лёзунгі, пад якімі кандыдаты ПАП пойдуць на выбары - "Выпі піва - будзе лепей!", "Гэй, там, налівай!", "100 гатункаў беларускага піва ў кожнай краме!", - ня голы папулізм, а рэальныя пляны дзейнасьці партыі. Ну і, зразумела, трапіўшы ў парлямант, нашыя дэпутаты не адступяцца ад прынцыпаў Беларускае дзяржаўнасьці, абароны правоў чалавека й прыватнай уласнасьці.

І апошняе. Мы заўсёды падымаем піўныя кубкі за лёзунг "ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ", лічым піва нацыянальным беларускім напоем, якому аддаем перавагу перад расейскаю гарэлкай і каўказскім каньяком.

## АБЛАМАЛІ ПЯЛЁСТКІ "РАМОНКУ"

Мноства дзіўных падзей адбываецца ў наш дзіўны час. Раскажу пра "Рамонак".

У Навукова-дасьледчым Інстытуце сродкаў аўтаматызацыі (НДІСА) — адным з перадавых у ВПК былога СССР — была распрацавана высокатэхналягічная сыстэма назіраньня за аб'ектамі навакольнага асяроддзя. Яна меркавалася дзеля як мага ранейшага сьведчаньня пра стыхійныя ды тэхнагенныя катастрофы й атрымала рамантычны назоў "Рамонак". Аўтаматычныя даччыкі сыстэмы павінны былі ўсталёўвацца спрэс па тэрыторыі Беларусі. У тым ліку — дзеля кантролю за АЭС суседніх дзяржаваў. Плянавалася, што зьвесткі ад "Рамонку" будуць назапашвацца на ВЦ Штабу грамадзянскае абароны Рэспублікі Беларусь. Пры рэалізацыі праекту выкарастоўваліся найноўшыя канвэрсыйныя тэхналёгіі; шмат якія зь іх былі ўнікальныя. "Рамонкам" зацікавіліся Вялікабрытанія, Італія. Пачаліся адпаведныя перамовы.

На жаль, карысьці сваёй краіне "Рамонак" не прынёс. Прыблізна трохмільярдныя (у рублёх) выдаткі пайшлі дымам. Калектыў распрацавальнікаў распаўся. Спэцыялісты падаліся хто куды. Пры гэтым урад праз Фонд інфарматызацыі пачаў "з нуля" фінансаваць аналягічны праект, апрыёры слабейшы за "Рамонак" (галаўная ўстанова новае распрацоўкі — адзін зь інстытутаў АНБ).

Дык мо ветэранам былой "непобедимой и легендарной" са Штабу ГА не зразумелая, а значыць непатрэбная тэхніка сусьветнага ўзроўню?

Мо сам працэс "вырабу" чагосьці па дзяржзаказе — чаго б там ні было — настолькі выгодны тым асобам ці клянам, праз чые рукі цячэ фінансаваньне, што яны гатовы "вырабляць" адно і тое ж вечна?

А магчыма кагосьці не задавальняе высокі навукова-тэхнічны патэнцыял Рэспублікі Беларусь і разбурыць яго — ёсьць усьведамленай мэтай? Тым больш што дзеля гэтага і рабіць нічога ня трэба. Трэба адно нічога не рабіць.

А мо гэта проста элементарнае бязладдзе? І ёсьць яно сьведчаньнем інтэлектуальнага ўзроўню той "эліты", што сёньня пры ўладзе? А раптам... Ды чаго гадаць? У кожнага ў гэтай гісторыі свае падставы, інтэрасы. Адно толькі вышэйшыя інтэрасы дзяржавы засталіся нікому зь іх не патрэбнымі.

Між іншым, ці вы не забыліся на тую гісторыю з продажам ЗША супрацьракетнага комплексу, што так не спадабалася расейскім урадоўцам? Дык вось. Гэта — распрацоўка таго ж НДІСА. Таго самага, што зараз ці то па нядбайнасьці, ці то наўмысна пацiху-патроху даводзіць да заняпаду.

**Г.Б.**

***Прэзідэнт Беларусі абяцаў ветэранам ініцыяваць рэферэндум пра дзяржаўную сымболіку й статус беларускае мовы.***

Выступаючы 1 лютага на сустрэчы зь ветэранамі, прэзідэнт Беларусі паабяцаў ініцыяваць правядзеньне рэферэндуму, на які будуць вынесены пытаньні пра перагляд дзяржаўнае сымболікі й статусу беларускае мовы. *"Не могу смотреть, как у вас, людей, прошедших войну, обливается кровью сердце, когда вы смотрите на весь этот национализм"*, -- заўважыў Аляксандр Лукашэнка (СІМ).

## БЕЛАРУСКАЯ ПАРТЫЯ СВАБОДЫ ДЭКЛЯРУЕ:

Пасьля стагоддзяў прыніжэньняў і цемры на Беларусі ўзьнімаецца сьвітанак Волі і Веры. БПС абвяшчае: **"BIELARUS DLA BIELARUSAU"!**

Беларусы (ураджэнцы Беларусі), усе патрыёты Бацькаўшчыны маюць права ўступленьня ў БПС. Нашыя папярэднікі — ваяры Слуцкага паўстаньня й войска Булак-Балаховіча, інсургэнты Кастуся Каліноўскага, Арганізацыі Беларускіх Нацыяналістаў, беларускія партызаны-ідэйнікі 1941— сярэдзіны 50-ых гадоў, Партыя Нацыянальнае Незалежнасьці, партыі і арганізацыі, што змагаліся за вызваленьне Бацькаўшчыны ад ярма рэжымаў Расеі, Польшчы ды Нямеччыны. Уся нашая дзейнасьць — дзеля Беларусі, дзеля Беларусаў. І няма на нашай зямлі мейсца камуністым, небеларускім царкоўным стаўленьнікам, варожым расейскім войскам ды здраднікам (маскалям).

**БЕЛАРУСЬ ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ!** А калі хто супраць — пакінь нашу краіну!

**СВАБОДНАЯ БЕЛАРУСЬ — СВАБОДНЫЯ МЫ!** Таму мы супраць усялякіх саюзаў, зон, канфэдэрацыяў.

**МЫ — ГАСПАДАРЫ НА НАШАЙ ЗЯМЛІ!** Мы будзем змагацца зь любым прыгнятальнікам, што цкуе беларусаў ды шкодзіць іхнім інтарэсам. Незалежнасьць і суверэнітэт мы захаваем любым чынам. Мы пакідаем за сабой права на вялявыя скрайнія захады ў імя свабоды й будучыні нашае Беларусі.

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

БПС чакае цябе, Спадар Беларус! Наша адрэса: 220047, Менс к-47, аб/скр. 414.

## Чытайце у наступным нумары:

Лямпасы "с чужого плеча"
Прадпрымальніцтва на Беларусі
У моцнага лідара моцныя нэрвы
Верш з архіву КДБ
Праміж намі, маскалямі
"Кампрадорская буржуазія": дзея I
А.Мельнікау: "Я сказау усё..."
Ведай, цётка, сваё мейсца
Тое-сёе пра Зянона і інш.

Спадар чытач!

Мы ўпэўнены: правая газэта "ZA VOLU" здолее заняць сваё мейсца ў інфармацыйнай прасторы Краіны, знойдзе свайго чытача, сваіх фундатараў.

Мы шчыра ўдзячны тым, хто дапамог гэтаму нумару газэты "ZA VOLU" ўбачыць сьвет. Паведамляем наш разьліковы рахунак сябрам і хаўрусьнікам:Менск, БелАКБ "Еўрапейскі", р/р 468634, код 861, прадпрыемства "Літторн".

**Рэдкалегія**

**ZA VOLU. Незалежная правая газэта.** Заснавальнік Прадпрыемства "LITTORN". Рэдактар Ганна Шваццова. Кампутарны дызайн Андрэя Рамашэўскага. Падпісана ў друк 13.02.95, 19:40. Наклад 5000 асобнікаў. Адрэса рэдакцыі: 220141. Менск, вул. Русіянава, 5-1-44; адрэса для карэспандэнцыі: 220141, а/с 353. Тэл. 602573.

# У ЯКОЙ ДЗЯРЖАВЕ МЫ ЖЫВЕМ

## СЁНЬНЯ Я — ЗАЎТРА ТЫ!

Я не сьцьвярджаю, што мы жывем у паліцэйскай дзяржаве. Я толькі разважаю і нікога ні ў чым не пераконваю. Раблю гэта, маючы такі-сякі вопыт.

Ці могуць вас у любы момант затрымаць на вуліцы? Могуць. А за што? Ну, сытуацыяў можа быць мноства...

**1.** Вы займаеце актыўную жыцьцёвую пазыцыю і паводзіце сябе як незалежная асоба — з годнасьцю, з павагай да закону. У вашым горадзе фашысты з суседняе дзяржавы ладзяць зборышча. Вы туды ідзеце, праганяеце іх. Афіцыйным уладам гэта не падабаецца. На ўсю краіну вас па радыё назавуць пагромшчыкам. Але галоўнае ня гэта. Галоўнае — вас "запомнілі"...

**2.** Вы два тыдні не атрымоўваеце газэту, на якую афармілі падпіску. Па радыё і тэлебачаньні перадаюць, што ваша газэта быццам бы ня будзе друкавацца. Бярэце квіток аб аплаце падпіскі і ідзеце ў адміністрацыю прэзыдэнта па дакладную інфармацыю. Так сталася, што тое ж зьбіраліся высьветліць і яшчэ некалькі дзесяткаў падпісчыкаў... Інфармацыі не атрымаў ніхто. Зьнявагу — атрымалі ўсе. А некаторыя — яшчэ й фізычнае пашкоджаньне ды арышт...

**3.** Вы ідзеце па вуліцы і бачыце, як ахоўнікі парадку груба абыходзяцца зь незнаёмым вам чалавекам. Вы цікавіцеся, чаму яго зьневажаюць. Што пачуеце ў адказ: тлумачэньне ці абразу?..

**4.** Ідзе афіцыйна дазволены мітынг, пікетаваньне. Вас як актыўнага грамадзяніна служба парадку ўжо "запомніла". Але вы — сама законапаслушнасьць. Тады вам ветліва прапануюць выканаць штосьці накшталт "сaступіце з тратуару". Вядома ж, вы паслухаецеся. Толькі абавязкова, як высьветліцца, вы нешта зробіце ня так, як ім трэба... І тут вас "самым решительным образом" паставяць на мейсца. Вы пачнеце апраўдвацца — гэта ўспрымуць як грубасьць... Адным словам, калі на вас складуць пратакол — зьдзіўляцца не варта. А ўжо абурацца — тым больш. Сабе даражэй будзе.

**5.** Ну а дапусьцім... правільна вас затрымалі. Парушылі парадак — трэба адказваць. Але чаму вось так: сярод зімы пяць сутак сядзець у памяшканьні з выбітай шыбай, без магчымасьці патэлефанаваць дамоў (каб родныя не хваляваліся ды каб цяплейшую вопратку перадалі)?.. Але гэта яшчэ нішто! Я, напрыклад, пабачыў мужчыну, увесь торс якога быў чорным — ад міліцэйскіх дубінак...

Я згадаў свае жыцьцёвыя сытуацыі, чытачы могуць згадаць свае. І — зрабіць выснову: дык у якой гэта дзяржаве мы жывем?..

**Мікола Савіцкі**

*Ад рэдакцыі.*

*Прапануем красамоўную ілюстрацыю да допісу прафэсара М.Савіцкага. 1 верасьня 1994 г. за ўзьніцце — падчас канцэрту "Рок па вакацыях" — бел-чырвона-чорнага сьцягу БПС ейны лідар С.Высоцкі ды заступнік старшыні БПС А.Сідорык былі затрыманы міліцыянтамі. У прыватнасьці, сп. Высоцкі правёў у пастарунку Цэнтральнага РАУС каля 15 гадзінаў. На скаргу аднаго з затрыманых пракуратура Цэнтральнага раёну г.Менску даслала паведамленьне (N 49-імт-94): "... у дачыненьні да вас былі законна прымененыя спецсродкі — наручнікі, а таксама фізычная сіла... " Але, як і сп.Савіцкі, мы не сьцвярджаем, што жывем у паліцэйскай дзяржаве.*

АДКРЫТЫ ЛІСТ

МІНІСТРУ ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ СПАДАРУ ЗАХАРАНКУ Ю.М.

Шаноўны спадар міністр, Управа Беларускай партыі Свабоды звяртаецца менавіта да Вас як да сумленнага, шчырага чалавека, як да грамадзяніна нашай краіны, якому лёс наканаваў быць абаронцам нашай Канстытуцыі, Закона, Парадку.

Усе мы людзі адной Бацькаўшчыны, мы нарадзіліся на Беларусі, нам тут жыць, тут расціць сваіх дзяцей, будаваць сваё жыццё, тут нам паміраць. Калі спатрэбіцца, мы паўстанем на абарону Радзімы, як зрабіў гэта чачэнскі народ. Але дай Бог, каб ні нам, ні нашым дзецям не давялося браць у рукі зброю і ісці з кім-небудзь ваяваць.

Спадар міністр, мы разлічваем на Вашу вытрымку і свядомасць ды спадзяемся, што пачатак рэпрэсій супраць дэмакратычна настроеных грамадзян ня будзе мець працягу. Апошняя падзея - арышт прафесара БЭУ Міколы Савіцкага, вядомага і паважанага, якому пайшоў сёмы дзесятак - ганьба для краіны, для ўсіх нас.

Зразумейце, працэс Адраджэння пайшоў, і яго ўжо не спыніць, як бы гэтага не прагнулі вядомыя нам палітыкі. Таму, што побач са сталымі па веку стаяць дваццаці-трыццацігадовыя. Маладое пакаленне зацікаўлена ў адраджэнні сваёй Бацькаўшчыны, і ніякія рэпрэсіі, арышты, нават забойствы (маем на ўвазе забойства аднаго з кіраўнікоў УНА пры разгоне дэманстрацыі ў Львове ў падтрымку Чачні) не здольны звярнуць кола гісторыі, а толькі павысяць напружанасць, адваротную рэакцыю ў грамадстве.

Спадар міністр, улады прыходзяць і сыходзяць, а пагатоў хутчэй тыя, што дазваляюць выходзіць газетам з "белымі плямамі" альбо ўвогуле іх (газеты) забараняюць, тыя, што здымаюць няўгодных ім рэдактараў, журналістаў, тыя, што парушаюць асноўныя правы чалавека, Канстытуцыю. Застанемся мы - народ Беларусі, застанецца свабодная, незалежная краіна.

БПС даўно ўжо вырашыла для сябе як партыя нацыяналістаў (па-беларуску - народнікаў) адстойваць інтарэсы нацыі - народа, змагацца з любым прыгнятальнікам, што цкуе беларуса ды шкодзіць ягоным інтарэсам.

Беларусь для беларусаў!

Намеснік старшыні БПС Сідорык Аўген.

## НАВОШТА МНЕ ПАРЫЖ...

Як стала вядома, 31 студзеня г.г. сп. Сідорык быў запрошаны ў МУС Рэспублікі Беларусь на размову са старшым інспэктарам па адмысловых даручэньнях Управы аховы грамадзкага парадку МУС сп. М.Лізуном. Апошні меўся атрымаць дадатковыя тлумачэньні па зьмесьце вышэйпададзенага адкрытага ліста.

Паколькі зварот да сп. Ю.Захаранкі ня ёсьць асабістым, у будынак на вул. Урыцкага завіталі 7 сяброў Управы БПС на чале з С.Высоцкім. Выпадкова тут жа знаходзіўся й карэспандэнт аднаго зь беларускіх перыёдыкаў.

У сп.М.Лізуна не было жаданьня "устраивать пресс-конференцию". Да таго ж, як адзначыў Мікалай Кузьміч, ягоны службовы пакой можа зьмясьціць ад сілы двух наведвальнікаў. Пагэтаму размова йшла ў вестыбюлі.

Адзін з "бакоў" выказаў спадзяваньне, што праваахоўныя органы паспрыяюць пабудове ў Беларусі прававое дзяржавы і засьведчыў: надзейным апірышчам МУС у гэтай пачэснай справе ёсць БПС. Другі "бок" падкрэсьліў дэпалітызаванасьць свайго ведамства і пажаданьне яшчэ раз вярнуцца да гутаркі пра зьмест ліста (даручэньне міністра!). Але — каб размову весьці ня больш як з двума свабодаўцамі.

...Хацеў быў і я ліст паслаць. Сябру. Ён цяперака ў Парыжы. А пасьля рашыў: ніякіх лістоў! Бо раптам і ён запатрабуе дадатковых тлумачэньняў... Гэта што ж, у Парыж ехаць?!

**Наш кар.**

***Асноўнымі мэтамі БПС зьяўляюцца:***

*- нацыянальнае, палітычнае, маральна-духоўнае і эканамічнае адраджэньне Беларусі як прававой сувэрэннай дзяржавы;*

*- дасягненьне поўнае незалежнасьці Беларусі;*

*- пабудова моцнае і заможнае Беларускае дзяржавы.*

*(Вытрымка са Статуту Беларускае партыі Свабоды)*

*МУС Рэспублікі Беларусь зьвярнулася да грамадзян са зваротам, у якім адзначаецца: "На працягу 1994 году органы ўнутраных справаў выявілі каля 66 тыс. злачынцаў, хоць часам гэта пагражала жыцьцю й здароўю супрацоўнікаў міліцыі".*



На здымку: намесьнік старшыні БПС Аўген СІДОРЫК

## «ВЫКЛЮЧНАСЬЦЬ» НАШАЕ СЫТУАЦЫІ

Ня так даўно амэрыканскі прафэсар, выступаючы на міжнароднай канфэрэнцыі ў Менску, усхвалявана распавядаў пра працэсы, што адбываюцца сёньня ў адукацыі ЗША. Як выявілася, да апошняга часу там ні на адукацыйным, ні на дзяржаўным узроўнях не ўзьнімалася пытаньне пра права этнічных суполак на навучаньне на роднай мове ды вывучэньне ў дзяржаўнай школе гісторыі свайго народу. Зараз жа ў краіне ўсё больш настойліва гучаць галасы на карысьць такога права.

Згаданы эпізод аднавіў у мае памяці нядаўнія дыскусіі: інтэрнацыянальна настроеныя грамадзяне даводзілі, што нацыянальнае й моўнае пытаньні штучна ўзьнімаюцца купкай "националистов", якія нібыта не разумеюць агульнай інтэграцыйнай тэндэнцыі разьвіцьця чалавецтва. У гэтым "інтэрнацыяналісты" бачылі нейкую "выбітнасьць" нашае сытуацыі: во, маўляў, увесь сьвет аб'ядноўваецца, а тут "нацыяналісты" штурхаюць краіну да "самаізаляцыі". І калі ўжо не пасьпелі беларусы зарганізавацца ў нацыю, то й ня трэба цяперака йсьці насуперак агульнаму руху ў Эўропе.

На жаль, з-за неасьцярожнай фразеолёгіі нашага найвышшага кіраўніцтва дыскусіі падобнага кшталту зноў пачалі аднаўляцца, праўда, у троху інакшай форме — у форме абароны правоў чалавека ад нібыта "нацыяналістычнае" палітыкі дзяржавы.

Заўважу, што нават сам такі паварот можна ўспрымаць як значнае дасягненьне: калі ўзьнікаюць падобныя да гэтага абвінавачаньні, то, можа, сапраўды ў гэтай дзяржаве нештанейкае адбываецца ў кірунку разьвіцьця беларускае нацыі!? Цудоўная, аднак, ілюзыя...

Такое ўражаньне, што мы — і "простыя" грамадзяне, і кіраўнікі дзяржавы — дагэтуль так і ня вырашылі для сябе аднаго простага пытаньня: дык хочам мы зрабіцца (зьяўляцца) нацыяй ці не? добра гэта (ператварэньне ў нацыю) ці блага? і, нарэшце: што скажуць у сьвеце?

Калі адказ на першае пытаньне станоўчы, то ён аніяк не "кампрамэтуе" нас перад сьветам. Наадварот, сьвет разьвіваўся й разьвіваецца паводле наступнага закону: тыя народы, што захавалі сваю культуру й мову, што прайшлі шляхам станаўленьня собскай дзяржаўнасьці, маюць шанц зрабіцца нацыяй. Пры гэтым гісторыя сьведчыць: менавіта дзяржаве належыць галоўная роля ў фармаваньні нацыі. ЗША — выдатны прыклад таго, як з розных этнасаў дзяржава ўтварыла адну нацыю, хоць, як бачым, і там сёньня назіраюцца працэсы этнічнага рэнесансу. "Выключнасьць" жа нашай сытуацыі не ў тым, што мы ўздымаем і спрабуем вырашыць — нарэшце на дзяржаўным узроўні — балючыя для нас моўныя пытаньні, а ў тым, што працэс этнічнага рэнесансу беларусаў супадае па часе з працэсам фармаваньня беларускіх дзяржавы й нацыі. А працэсы гэтыя папраўдзе розныя. Калі першы ажыцьцяўляецца сродкамі асьветніцтва, зьбіраньня фальклору, адраджэньня рамёстваў, а на вышэйшых узроўнях — разьвіцьцём літаратуры й мастацтва на аснове народных мовы, традыцыі, то другі працэс не такі рамантычны. Гэта цяжкая праца дзяржавы — ад набыцьця сапраўднага сувэрэнітэту й вырашэньня эканамічных праблемаў і да стварэньня нацыянальнае сыстэмы адукацыі.

**Тацьцяна Буйко**

# ТОДАР ДАНІЛЮК: МАЕ ЎСПАМІНЫ

### "ПАДСТАЎЛЯЛІ СВАЕ ГАЛОВЫ ЗА БАЦЬКАЎШЧЫНУ..."

*Неўзабаве беларускае грамадзтва будзе сьвяткаваць вялікую дату айчыннае гісторыі — 75-я ўгодкі Слуцкага збройнага чыну. Шмат ужо напісана пра паўстаньне, але, мяркую, поўная карціна той велічнай і трагічнай падзеі яшчэ ня складзена, ня ўсе героі — ад простага жаўнёра да кіраўнікоў-камандзераў — належна ўшанаваны. Успаміны, якія вы зараз прачытаеце, належаць актыўнаму ўдзельніку Слуцкага паўстаньня ў той час падпаручніку Тодару (Хведару) Данілюку.*

*Гісторыя напісаньня ўспамінаў наступная. Да 1944 г. з афіцэраў I Слуцкае брыгады, што знаходзіліся на тэрыторыі Беларусі, засталося чацьвёра: на той час капітан Антон Сокал-Кутылоўскі, лейтэнант Тодар Данілюк (абодва — афіцэры Беларускае Краёвае Абароны), былыя паручнікі Копэць і Залескі. Большасьць іхніх паплечнікаў загінулі ў польскіх ды савецкіх турмах. Сокал-Кутылоўскі пісаў: "Кожны афіцэр I Слуцкае брыгады вельмі шмат перанёс зьдзекаў ад палякаў ды бальшавікоў за ўдзел у Слуцкім змаганьні, г.зн. цярпелі за нацыянальную справу й падстаўлялі свае галовы за Бацькаўшчыну..." Каб памяць аб героях не была забыта нашчадкамі, вядомы беларускі нацыянальны дзеяч Кастусь Езавітаў у канцы лістапада 1944 г. зьвярнуўся да Сокал-Кутылоўскага й Данілюка з заклікам напісаць успаміны аб тых падзеях. Узяўшыся за працу, Данілюк выйшаў за запатрабаваныя храналягічныя рамкі, таму даў напісанаму назоў "Мае ўспаміны аб службе ў беларускіх вайсковых фармацыях ды ўдзеле ў беларускім збройным змаганьні 1917—1921 гг." 15.12.1944 г. ён пісаў Езавітаву: "Маім найшчырэйшым жаданьнем зьяўляецца, каб гэтыя колькі балонак далі крыху новага матэрыялу для будучых дасьледчыкаў беларускае вайсковае гісторыі".*

**Уладзімер Дыдзік, гісторык**

Звыш чвэрці стагоддзя адышло ў безваротнасьць з тае пары, калі мне давялося браць удзел у падзеях, якія зьяўляюцца вялікім паваротам у гісторыі беларускага адраджэньня. На думку я маю здарэньні, зьвязаныя з абвяшчэньнем незалежнасьці Беларусі ў 1918 годзе і асабліва тварэньне беларускіх вайсковых адзінак і беларускае збройнае змаганьне на працягу ад 1917 да 1921 гг. Сяньня, калі мінае 24 гады ад выбуху Слуцкага паўстаньня, і перад намі ўстаюць падобныя, калі не тыя самыя заданьні, як тады, я рады падзяліцца з усімі суродзічамі, а асабліва маладым пакаленьнем, тымі сьціплымі весткамі, якія захаваліся ў мае памяці да гэтае пары.

Яшчэ да першае сусьветнае вайны і падчас яе мне давялося адведаць шмат куткоў былое Расейскае імпэрыі. І дзе я толькі не затрымліваўся, расейцы дапякалі мяне за мой нячысты акцэнт, называючы мяне палякам, а палякі наадварот — звалі кацапам. Чужым і адзінотным адчуваў я сябе ў шматлюднай Расеі. Тады яшчэ слова беларус у выніку русіфікацыйнае палітыкі расейскага ўраду ня мела значэньня прыналежнасьці да адной нацыі, а ўжывалася хутчэй як адзначэньне паходжаньня з "Северо-Западного края". Нацыянальная сьведамасьць нараджалася ў нашых сэрцах, перамагаючы багата накінутых чужынцамі поглядаў і фальшывых уяўленьняў. Звацца беларусам тады значыла сьцягваць на сябе ўвагу зьверхнікаў і паддавацца бясконцым допытам і перасьцярогам.

Памятаю, калі я ў афіцэрскай школе, усьведаміўшы канчаткова хто я, запісаўся беларусам, мой курсавы афіцэр сказаў мне: "Ты рызыкант, калі ў вайну наважыўся напісаць, што беларус, а не рускі". Гэтак было сярод інтэлігенцыі, што ж казаць тады аб работніках і сялянах! Народная гушча у большасьці яшчэ спала. Лічаныя адзінкі толькі пашыралі нацыянальныя ідэі і намагаліся пацягнуць народ да сьветлае будучыні. Заслужаныя іх імёны і цяжкасьці, якія яны перамаглі, з пашанай адзначыла і ўспамінаць будзе Гісторыя Роднага Краю.

Цяпер немагчыма акрэсьліць шляхі, якімі пайшло б беларускае адраджэньне, беларускі вызвольны рух, калі ня выбухнула б рэвалюцыя ў 1917 годзе, якая расхіснула Расейскую імпэрыю у ейных асновах. Ад першых дзён рэвалюцыі нацыянальная сьведамасьць сярод беларусаў пачала пашырацца з хуткасьцю электрычнае іскры.

Я ў той час пасьля скончэньня афіцэрскае, ці як тады называлася, "школы прапаршчыкаў" пяхоты ў Гатчыне быў прызначаны камандзерам 4-е роты, а пасьля вучэбнае каманды ў 223-м рэзервовым палку, які знаходзіўся ў гор. Таржок. Часта ў гутарках з сваімі жаўнерамі, сярод якіх было багата беларусаў, даводзілася чуць словы пагарды аб "маскалёх", спосабе іх жыцьця, жаданьне вярнуцца на Беларусь і нясьмелыя яшчэ разважаньні аб магчымасьцях дзяржаўнага існаваньня нашае Радзімы.

1 кастрычніка 1917 году на маёй собскай просьбе я быў прызначаны ў 118-ы Шуйскі полк на румынскім фронце, які ў большасьці складаўся зь беларусаў, пераважна сланімчан, г.зн. маіх землякоў.

Тут ужо неўзабаве весткі прыйшлі аб бальшавіцкім пераваpоце. Бальшавіцкая агітацыя здабывала сабе сярод жаўнераў багата прыхільнікаў. Вынікам гэтага сталася суцэльная дэмаралізацыя, заняпад дысцыпліны, развал арміі. Жаўнеры штодня ўцякалі дзесяткамі з сваіх аддзелаў, прадавалі і грабілі вайсковую маёмасьць.

Тады заступнік галоўнага камандуючага румынскага фронту ген. Шчарбачоў выдаў загад аб нацыянальных злучэньнях сярод арміі... Беларусы павінны былі зьбірацца ў 4-м корпусе каля Ільештаў. Я быў вызначаны нацыянальным камісарам корпусу.

(Працяг будзе)

# ПАКУТА ПА «СТАРЭЙШЫМ БРАЦЕ»




*Умоўныя пазначэньні: 1 - межы расьсяленьня беларусаў (паводле Я.Карскага); 2 - межы ВКЛ (1465); 3 - мяжа з Польскай каронай пасьля Люблінскай вуніі (1569); 4 - мяжа з Расеяй паводле Вечнага міру (1686); 5 - сучасныя межы Рэспублікі Беларусь; 6 - рэкі; 7 - гарады.*

Уласнымі намаганьнямі, Божай спагадай нашыя продкі стварылі калісьці магутную дзяржаву й разам з гэтым — умовы для фармаваньня нацыі, аб'яднаўшы родныя народы.

Калі "ношка" ўласнай дзяржаўнасьці для вярхоўных уладаў здалося занадта цяжкою, яны — вядома ж, "зь лепшых памкненьняў" — пачалі шукаць "старэйшага брата", які б і дапамог, і абараніў. З тых далёкіх часоў і пачаліся для беларускага "начальства" пакуты "па старэйшых братох". "Браты" гэтыя знаходзіліся. Вось толькі — што цалкам натуральна — яны не дапамагалі, не абаранялі. Бо ў кожнага з тых "братоў" заўсёды былі ўласныя праблемы, і яны, зразумела, больш важныя за чужыя. (А каб твае праблемы зрабіліся клопатам "брата", канечне ж, дамагчыся можна! Трэба... зрабіцца ягонай часткай! Але гэта азначае нешта іншае як... зьнікнуць самому. — Г.М.)

У выніку падзелаў (наступства вуніі з Польшчай) некалі агромністая дзяржава пачала сьціскацца, бы шчыгрынавая скура. Але ж тэрытарыяльныя страты — гэта яшчэ не ўсё: за імі хаваюцца страты людзкія, культурныя. Калі другія азначаюць страту нацыяй сябе, свайго аблічча, то першыя — кроў, фізічнае вынішчэньне людзей — носьбітаў нацыянальнае самасьведамасьці.

Меней як за сто гадоў (1650—1720) насельніцтва Беларусі двойчы скарачалася ўдвая ў выніку войнаў, што вялі на ейнай тэрыторыі "старэйшыя браты".

Калі тэрыторыя Беларусі канчаткова ўвайшла ў склад Расейскае імпэрыі і згубіла саму магчымасьць хоць нейкага існаваньня як адзіны суб'ект, яна зрабілася "Северо-Западным краем".

Беражы, спадар, сваю "ношку", каб не давялося несьці чужую!

**ГЕНАДЗЬ МАРКЕВІЧ**

# ЗА ВОЛЮ Й БАЦЬКАЎШЧЫНУ

Антыбальшавіцкая партызанка на Беларусі зьявілася ўлетку 1944 г., калі разам з Чырвонай Арміяй на Беларусь прыйшлі каты з НКУС. Арышты, расстрэлы й дэпартацыі ў Сібір і на Поўнач прымусілі дзесяткі тысячаў беларускіх сялянаў, інтэлігентаў, вайскоўцаў зь Беларускае Краёвае Абароны, моладзь з Саюзу Беларускае Моладзі падавацца ў лясы ды ствараць паўстанцкія аддзелы, якія распачыналі барацьбу супраць савецкае ўлады. Тысячы беларускіх патрыётаў загінулі ў баёх, памерлі ад ранаў, былі расстраляныя гэбістамі (у палон бальшавікі бралі толькі аднаго партызана з трох — астатніх расстрэльвалі на месцы), загінулі ў сутарэньнях НКДБ ды лягерох.

Патрыёты Бацькаўшчыны мелі й свае перыёдыкі, што выходзілі на працягу амаль 10 гадоў ("За волю", "Да чыну", "Самастрэл па камуністых", "Лесавік", "Нашадказ", "Інфарматар", "Да перамогі", "За Бацькаўшчыну", "Душы бальшавіцкую гадзіну", "Вольны селянін", "Самасад", "Пад абцасам маскалёў" і інш.; партызан Сяргей К. сьцвярджаў, што ўсяго іх было болей за сотню). Выдаваліся й улёткі, брашуры, плякаты. Прапануем вашай увазе выняткі з некаторых такіх выданьняў.

"...Трэці раз мы перамаглі бальшавіцка-акупанцкую аблогу й трэці раз засталіся пераможцамі ў няроўным баі, як будзем пераможцамі і ў апошняй бойцы, гонячы маскаля ў Маскву... Крывавячыся ў зацятых баёх, далучаючца да дарагіх ценяў палёглых за волю змагароў нашыя слаўныя сябры, але беларускія партызаны вытрымалі й вытрымаюць... І разам з гордасьцю памяці палёглых герояў мы атрымліваем гордасьць і за беларускага партызана — народнага ваяку за праўду і волю..." ("За волю", N16 ад 7 лістапада 1949г.)

"...Жыве Беларусь — будзеш жыць і ты! Сьмерць Беларусі ёсьць і тваёй сьмерцю. Змаганьне пачатае, і яно ня скончыцца, пакуль беларуская зямля ня будзе ачышчана ад маскальска-бальшавіцкай нечысьці!" (Улётка на 1 траўня 1950г.)

"...Мы пастаўлялі і паставім свой твар усім сіверам, мы выпрастаем свае сьпіны і ў сьветлай радасьці змаганьня за родны край перапусьцім праз сябе ўсе разьюшаныя злыя сілы бальшавізму... мы пабудуем сваю собскую дзяржаву, сваю вольную й прыгожую Беларусь." ("Самастрэл", N 7 за 1949г.)

Баявая партызанская прэса вяртаецца да нас як напамін аб гераічным дзесяцігадовым змаганьні лепшых сыноў і дачок нашага народу за незалежнасьць Бацькаўшчыны.

**"Пагоня", 17—23 чэрвеня 1994г.**

*"... Беларусь и Россия не могут жить друг без друга и не должны к этому стремиться. Даже если и могут. Зачем?"*

***А.ЛУКАШЕНКО***

# Калыханка для манкурта

Штовечар Беларускае радыё расказвае казку-калыханку. Дзесяць хвілін доўжыцца перадача, але малыя яе любяць, чакаюць. І вось 9 лютага дачакаліся... Прагучала рускамоўная "Сказка про белочку" з такой жа песенькай-калыханкай: відаць, прэзыдэнт так рыхтуецца да прыезду "старшего брата" Ельцына. Але прычым тут дзеці? Малыя і так расейскую мову чуюць з раніцы да вечара. А цяпер вось і гэтыя дзесяць хвілінак роднага слова у іх адбіраюць. Ды й дзецям рускамоўнага насельніцтва калыханка на дзяржаўнай мове прынясе толькі карысьць. Дзяржаўную ж мову ведаць трэба! Шаноўныя спадары з кіраўніцтва радыёвяшчаньнем! Калі ласка, не аказвайце больш нашым дзецям паслугаў "расейскага мядзьведзя"!

*Н.Грыцук, Н.Асіповіч, Л.Шлеперава і інш. - бацькі і педагогі (Менск)*